*№11, верасень 2015* *ISSN 2291-4757*

# “КУЛЬТУРА, НАЦЫЯ”

**незалежны перыядычны *on-line* часопіс**
**у падтрымку беларускай культуры**
**і беларускасьці**

# №11
# Верасень 2015

*Часопіс заснаваны ў сьнежні 2012 года*
*Выходзіць раз на тры месяцы*
*Аттава, Канада*

*№11, верасень 2015* *ISSN 2291-4757*

## Дарагія сябры!

Часопіс **"КУЛЬТУРА, НАЦЫЯ"** заснаваны як незалежнае перыядычнае выданьне, прызначанае для абмеркаваньня праблем беларускай культуры і развіцьця беларускасьці.

Часопіс зьмяшчае арыгінальныя аналітычныя артыкулы, эсэ, а таксама абгрунтаваныя дыскусіі і каментары па гісторыі, мове, літаратуры, сацыялогіі, традыцыях і іншых пытаньнях, маючых дачыненьне да развіцця беларускай нацыі.

Беларуская Мова – асноўная мова часопіса, але магчымы публікацыі і на іншых мовах.

Запрашаем да супрацоўніцтва ўсіх зацікаўленых.

*Свае матэрыялы дасылайце на* chasopis.sakavik@hotmail.com

Часопіс **"КУЛЬТУРА, НАЦЫЯ"** публікуецца на вэб-старонцы www.sakavik.net



*Аттава, Канада*

КУЛЬТУРА НАЦЫЯ

*№11, верасень 2015* *ISSN 2291-4757*

# Зьмест часопіса «КУЛЬТУРА, НАЦЫЯ»

# №11, верасень 2015

*Артыкулы*

Аляксандр Кашо **ПАНМАНГАЛІЗМ – ІДЭАЛАГІЧНАЯ ІНТЭНЦЫЯ КРАІНЫ, ЯКАЯ ХЛУСІЦЬ** (4-13)

Пётра Мурзёнак **ВЫБАР МІРУ** (14-20)

Пётра Мурзёнак **ДЗЕНЬ ЧОРНАЙ СТУЖКІ Ў КАНАДЗЕ (дзень памяці наступстваў пакта Молатава-Рыбетропа)** (21-27)

*Юбілеі*

Пётра Мурзёнак **ДА 105-ГОДДЗЯ З ДНЯ НАРАДЖЭНЬНЯ ЛАРЫСЫ ГЕНІЮШ** (28-33)

Вольга Іпатава **УСПАМІН ПРА УЛ. КАРАТКЕВІЧА. ДА 85-ГОДДЗЯ З ДНЯ НАРАДЖЭНЬНЯ**(34-39)

*Рэцэнзіі і пераклады*

Дэвід Джэймс Мідоў (David James Meadows) **УПЛЫЎ ПАЛІТЫЧНАЙ КУЛЬТУРЫ НА РОЗНЫЯ БАКІ ПОСТ-САВЕЦКІХ ПАЛІТЫЧНЫХ І ЭКАНАМІЧНЫХ ПЕРАЎТВАРЭНЬНЯЎ: Параўнаньне досьведу Латвіі і Беларусі пачынаючы з 1991 года.** Дысэртацыя на атрыманьне ступені доктара філасофіі (2012) *(прадмова і пераклад выбраных частак з англійскай мовы Пётры Мурзёнка)* (40-62)

*Наступны нумар часопіса выйдзе ў выйдзе ў сьнежні 2015 года*

№11, верасень 2015 ISSN 2291-4757

*Артыкулы*

## Аляксандр Кашо: ПАНМАНГАЛІЗМ – ІДЭАЛАГІЧНАЯ ІНТЭНЦЫЯ КРАІНЫ, ЯКАЯ ХЛУСІЦЬ

У гэтым артыкуле пад краінай, якая хлусіць я разумею Расію як імперыю, з усімі ўласцівымі ёй імперскімі прэтэнзіямі, комплексамі і нянавісцю да суседніх народаў. Я ведаю, што ёсць іншая Расія, краіна якая імкнецца да дэмакратыі, да свабоды асобы і правоў чалавека, краіна якая лічыць сябе часткаю Еўропы і імкнецца да супрацы, а не да канфрантацыі з ёй. Але на дадзены момант перамагае і перамагае з вялікім адрывам Расія імперская, і менавіта яна вінавата ў крывавай братазабойчай вайне на Данбасе. І гэта цяпер самае актуальнае пытанне на сённяшні дзень, таму я так назваў свой артыкул.

У красавіку гэтага года па сеціве, па розных міравых СМІ шырока разышлася навіна аб параненым на Украіне бураце Доржы Батамункуеве, кантрактніку расійскага войска, які атрымаў моцныя апёкі падчас бою ў раёне мястэчка Дэбальцева Данецкай вобласці. У сваім інтэрв'ю журналістцы расійскай "Новай газеты" ён падрабязна распавёў пра тое як патрапіў на Украіну, як атрымаў раненне. У прыватнасці ён адзначыў: ім было сказана, што яны быццам бы едуць на вучэнні, але і салдаты, і афіцэры выдатна ведалі куды едуць і былі маральна і фізічна падрыхтаваны. Яны ведалі, што "едуць бамбіць хахлоў". Ён таксама распавёў, што можна было і адмовіцца, як вынікае з яго слоў адмовіліся толькі двое: адзін яшчэ на месцы дыслакацыі часткі, другі ўжо па прыбыццю ў Растоў нехта Раманаў. Пры гэтым Батамункуеў называе Раманава чалавекам нізкіх прыярытэтаў. Далей ён адзначае, што ні аб чым не шкадуе.

Прызнацца мяне здзівіла такая адданасць простага бурацкага хлопца справе пабудовы «рускага свету» ў далёкай Украіне, бо, нягледзячы на тое, што ў галаве гэтага чалавека відавочна прысутнічаюць сляды прапаганды, тым не менш, у цэлым гэтае інтэрв'ю пакідае ўражанне, што гэты чалавек падтрымлівае мілітарысцкія памкненні і захопніцкую вайну, гэта можна было вывесці са шматлікіх ягоных захапляльных рэплік, калі ён апісваў усё, што бачыў і ў чым удзельнічаў.

Гэты выпадак нагадаў мне пра тэрмін панмангалізм. Ён быў уведзены расійскім філосафам Уладзімірам Салаўёвым у «Аповесці аб Антыхрысце». Потым ён выкарыстоўваўся бурацкай інтэлігенцыяй як ідэя для ўз'яднання мангольскіх

народаў у адзіную нацыянальную дзяржаву. Але пакінуўшы ў баку гісторыю і значэння панмангалізма для мангольскіх народаў я прапаную праглядзець як гэтая ідэя, нават не ідэя, а ідэалагічная інтэнцыя, адлюстравалася ў расійскай культуры і палітыцы.

У вершы Ўл. Салаўёў піша:

Панмонголизм! Хоть слово дико,
Но мне ласкает слух оно,
Как бы предвестием великой
Судьбины божией полно.
…О Русь! забудь былую славу:
Орел двухглавый сокрушен,
И желтым детям на забаву
Даны клочки твоих знамен.

Смирится в трепете и страхе,
Кто мог завет любви забыть...
И Третий Рим лежит во прахе,
А уж четвертому не быть.

Такім чынам, у вершы выказваецца непакой за тое, што Расія можа абрынуцца пад націскам з усходу. Для Салаўёва ідэя панмангалізма ўяўлялася як помста Еўропе ад народаў усходу. У згаданай аповесці Салаўёў словамі аднаго героя прадракае заваяванне заходняга свету народамі Японіі, Кітая, Монголіі, якія павінны аб'яднацца супраць агульнага ворага. Пры гэтым Расію філосаф бачыць на баку Еўропы. Аляксандр Блок выкарыстаў першых дзве строчкі верша “Панмангалізм” як эпіграф да свайго вядомага верша «Скіфы», і ў гэтым вершы панмангалізму надаюцца зусім іншыя канатацыі. Блок называе расіян скіфамі, азіятамі і таксама папярэджвае Еўропу аб небяспецы:

Мильоны — вас. Нас — тьмы, и тьмы, и тьмы.

Попробуйте, сразитесь с нами!

Да, Скифы — мы! Да, азиаты — мы, —

С раскосыми и жадными очами!

… Виновны ль мы, коль хрустнет ваш скелет

В тяжелых, нежных наших лапах?

Так у расійская паэзіі і філасофіі закладаецца тэрмін панмангалізм. Далейшы лес гэтай інтэнцыі цікава будзе прасачыць па яе развіццю ў ідэакратычнай філасофска-палітычнай плыні, якая сфармавалася сярод расійскіх эмігрантаў на Захадзе ў пачатку 20-х гадоў дваццатага стагоддзя - еўразійства, і якая працягвае існаваць і па сённяшні дзень, перш за ўсе, сярод тых палітычных і іншых дзеячоў, якія мараць пра аднаўленне савецкай ці расійскай імперыі. І пачаць тут можна з аднаго з самых вядомым заснавальнікаў гэтага руху князя Мікалая Трубяцкога лінгвіста, культуролага. Аб'ектам сваёй крытыкі ён выбраў рамана-германскую культуру, ён адкідвае гіпотэзу аб агульначалавечай культуры, робячы стаўку на значнасць асобных культур. Еўрапейская культура крытыкавалася ім за эгацэнтрызм, еўропацэтрызм. І тут ён напэўна меў рацыю, але ж ён быў не першы, шмат хто з еўрапейскіх даследчыкаў і да Трубяцкога, і ў адзін і той жа час з ім крытыкавалі сваіх сучаснікаў і папярэднікаў за еўропацэнтрызм. Але ж нам цікава канцэпцыя Трубяцкога адносна расійскай дзяржавы. Ён адмаўляе Кіеўскай Русі ў справе заснавання і станаўлення Расіі, крытыкуе дзейнасць Пятра Першага і негатыўна ацэньвае яго гістарычную ролю, бо гэты цар прынёс значную шкоду тым, што спрабаваў далучыць Расію да еўрапейскай культуры. У падмурак расійскай нацыі Трубяцкі змяшчаў «туранскі элемент» – кангламерат цюркскіх, ўграфінскіх, мангольскіх і іншых народаў. Славянства ўспрымалася як моўная, а не культурная ці этнічная супольнасць. Да пераваг туранскай псіхікі адносіліся: духоўная дысцыпліна, гатоўнасць да змагання як з знешнім ворагам, так і да вонкавай экспансіі, жорсткую падпарадкаванасць правадыру. Маскоўскае княства, па Трубяцкому, гэта па сутнасці аправаслаўленая туранская культура. Расійская імперыя, як і СССР з'яўляецца, на яго думку, пераемнікам вялікай імперыі Чынгісхана, яе тэрыторыя палягае ад вусця Дуная да Ціхага акіяна. Еўразійская этыка стаіць на трох прынцыпах: вернасць, адданасць, стойкасць. Фізічная праца і матэрыяльны дабрабыт не маюць этычнай каштоўнасці, яны ўласцівы нізкім людзям.

Гераічнасць, фаталізм, іерархія, - вось каштоўнасці сапраўднага качэўніка, якім і з’яўляецца туранскі псіхатып.

У сваёй працы «Еўропа і чалавецтва» (1920) Трубяцкі нават у назве катэгарыяльна выносіць еўрапейцаў за рамкі чалавецтва, еўрапейцы для яго гэта рамана-германскія народы. У гэтай кнізе, паслядоўна праводзячы крытыку еўрапеізацыі, ён задаецца пытаннем: «Пытанне абвяшчае: «з'яўляецца далучэнне да еўрапейскай культуры (паколькі такое далучэнне магчыма) дабром ці злом?» Адказ наступны: «Такім чынам, наступствы еўрапеізацыі настолькі цяжкія і жудасныя, што еўрапеізацыю даводзіцца лічыць не дабром, а злом». І далей ідзе наступнае пытанне і за ім адказ: «Як жа змагацца з гэтым кашмарам непазбежнасці ўсеагульнай еўрапеізацыі? На першы погляд здаецца, што барацьба магчымая толькі пры дапамозе ўсенароднага паўстання супраць раманагерманцаў. Калі б чалавецтва, - не тое чалавецтва, пра якое любяць казаць раманагерманцы, а сапраўднае чалавецтва, якое складаецца ў сваёй большасці з славян, кітайцаў, індусаў, арабаў, неграў і іншых плямёнаў, якія ўсе, без розніцы па колеру скуры, стогнуць пад цяжкім прыгнётам раманагерманцаў і марнуюць свае нацыянальныя сілы на здабыванне сыравіны, патрэбнай для еўрапейскіх фабрык, - калі б усё гэта чалавецтва аб'ядналася ў агульнай барацьбе з прыгнятальнікамі-раманагерманцамі, то, трэба думаць, яму рана ці позна атрымалася б зрынуць ненавіснае ярмо і сцерці з твару зямлі гэтых драпежнікаў і ўсю іх культуру. Але як арганізаваць такое паўстанне, ці не ёсьць гэта нязбытная мара? Чым больш уважліва мы будзем узірацца ў гэты план, тым больш зразумелым стане для нас, - што ён невыканальны, і што, калі гэта ёсць адзіны спосаб барацьбы з усеагульнай еўрапеізацыяй, барацьба гэтая проста немагчымая.

Справа, аднак, не так безнадзейная. Мы сказалі вышэй, што адной з галоўных умоў, якія робяць усеагульную еўрапеізацыю непазбежнай, з'яўляецца эгацэнтрызм, які пранікае праз усю культуру раманагерманцаў. Спадзявацца на тое, што раманагерманцы самі выправяць гэты фатальны недахоп сваёй культуры, вядома, немагчыма. Але еўрапеізаваныя не-раманагерманскія народы пры ўспрыняцці еўрапейскай культуры цалкам могуць ачысціць яе ад эгацэнтрызму. Калі гэта атрымаецца ў іх, то запазычанне асобных элементаў раманагерманскай культуры не будзе ўжо мець тых адмоўных наступстваў, пра якія мы казалі вышэй, і толькі ўзбагаціць нацыянальную культуру названых народаў».

Такім чынам, атрымліваецца, што Мікалай Трубяцкі не супраць таго, каб народы, якія стогнуць пад гнётам, паўсталі і сцерлі гэтую ненавісную Еўропу, але паколькі арганізаваць такое паўстанне немагчыма, то можна хаця б скарыстацца некаторымі здабыткамі гэтай цывілізацыі. У апошнія гады гэты аўтар расчараваўся ў шматлікіх

сваіх ранніх высновах, але, тым не менш, яго погляды былі пакладзены ў ідэалагічны падмурак еўразійства ў сувязі з чым мы іх тут і разглядаем.

Што тычацца сучасных ідэалагічных пабудоў прыхільнікаў еўразійства, то можна выдзеліць наступныя характэрныя ўстаноўкі: ідэакратыя, як падмурак дзяржавы і грамадства (стыль кіравання краінай шляхам ідэалагічнага інструктавання мас); моцная дзяржава праводзіць рэформы ў інтарэсах большасці насельніцтва; фармаванне ўлады зверху ўніз; кантроль дзяржавай эканамічных працэсаў, капіталізм, але не рынкавы; кіраўніку краіны надаецца права прымаць стратэгічныя рашэнні, вызначаць скіраванасць і дух заканадаўчых ініцыятыў; прыярытэт інтарэсаў грамадскіх груп над неабмежаванымі індывідуальнымі патрэбамі па прыродзе сваёй асацыяльных індывідаў; дамінаванне праваслаўя як рэлігіі. Па-ранейшаму, як і ў першай сваёй версіі прадстаўнікі сучаснага еўразійства супрацьпастаўляюць Заходнюю Еўропу Расіі-Еўразіі, па-ранейшаму, ставіцца задача распаўсюджвання «рускай» культуры на ўсю тэрыторыю ад вусця Дуная да Ціхага акіяна.

Напрыканцы 20 ст. значную ролю ў адраджэнні ідэй еўразійства адыграў вядомы савецкі гісторык, этнограф Леў Гумілёў (1912-1992). Ён з'яўляецца аўтарам даволі своеасаблівай канцэпцыі этнагенезу, якая шмат у чым супярэчыць сучаснай акадэмічнай навуцы. Так, напрыклад, Гумілёў адмаўляецца ад асноўных характарыстык этнасу: мова, асобная культура, самасвядомасць, адзінасць паходжання. Думкі гэтыя выкладзены ў працы «Этнагенез і біясфера Зямлі». У ёй аўтар звязвае развіццё этнасаў з касмічнымі працэсамі, ён разглядае гэты працэс як энергетычны феномен, які абумоўлены біяхімічнай энергіяй жывога рэчыва. Як і заснавальнікі еўразійства ён імкнецца ліквідаваць еўропацэнтрызм і падкрэслівае мазаічнасць чалавецтва. Адзінай прыкметай, па якой можна вызначыць этнас у гэтай канцэпцыі з'яўляецца стэрэатып этнічных паводзін. У этнасаў існуе два накірункі развіцця - адзін гэта стваральная праца, напрыклад, будаўніцтва, другі гэта так званая пасіянарнасць, тэрмін з якім асацыюецца імя самога Гумілёва. У адрозненне ад стваральнасці пасіянарнасць імкнецца да знішчэння ўсталяванага ладу жыцця і агрэгатнага стану асяроддзя. Яна выяўляецца ў стыхійных учынках, якія могуць быць самаразбуральнымі, але ўсё гэта прадыктавана падсвядомым памкненнем да самазахавання. Пад уздзеяннем касмічнай энергіі пэўны этнас, адчуўшы пасіянарны штуршок, пачынае сваю пасіянарную дзейнасць, пашыраецца, падпарадкоўваючы сабе іншыя этнасы, якія павінны стаць субстратам для суперэтнасу, які нараджаецца такім чынам.

Прадстаўнікі еўразійства што заснавальнікі, што іх сучасныя паслядоўнікі, абапіраючыся на свае канцэпцыі, нязменна імкнуцца апраўдаць права імперыі,

няважна ў якім выглядзе ці то ў выглядзе Расійскай імперыі, ці то ў выглядзе СССР, на захаванне кантролю над гэтай велізарнай тэрыторыяй. Таму не дзіўна, што Трубяцкі трактаваў славянскі элемент толькі як моўнаю супольнасць, бо ён разумеў, што славянства не ўпісваецца ў ідэалогію Маскоўскага княства, як пераемніцы імперыі Чынгісхана, як носьбіта інтэнцыі панмангалізма. Зразумела чаму Гумілёў адмаўляўся ад прынятых характарыстык этнасаў і пакідаў толькі стэрэатып этнічных паводзін. Відавочна, што суперэтнасам на тэрыторыі Еўразіі быў самы пасіянарны этнас, то бок сучасны расійскі этнас, у аснове якога, па Гумілёву, пераважна былі хрышчоныя татары, і тая ж інтэнцыя панмангалізма ў такім выпадку становіцца законным, абумоўленым касмічнымі працэсамі, натуральным развіццём гістарычных падзей. Бо пры такой трактоўцы этнаса ўжо не трэба звяртаць увагі на моўныя адрозненні, культуру асобных этнасаў. Трэба адзначыць, што Трубяцкі пісаў, што ўваходжанне народаў у еўразійскую цывілізацыю прынясе ім свабоду і абароніць нацыянальную ідэнтычнасць. Але мы ведаем як яно было на самой справе. На справе і Расійская імперыя, і СССР праводзілі палітыку татальнай русіфікацыі, якую канцэптуальна аформіў яшчэ граф Увараў, на практыцы дзясяткі, калі ня сотні паняволеных імперыяй народаў ужо не існуюць.

Але вернемся да палоннага бурата, на пытанне журналісткі калі яны даведаліся, што апынуліся ў Данецку ён адказаў: «Калі даведаліся? Калі прачыталі, што Данецк. Гэта калі ў горад заязджаеш ... Там яшчэ надпіс - ДНР. О, мы на Украіне! Цёмна было, ноччу ехалі. Я з люка высунуўся горад паглядзець. Прыгожы горад, спадабаўся. Справа, злева - усё прыгожа. З правага боку гляджу - велізарны сабор пабудаваны. Вельмі прыгожа. У Данецку мы ў сховішча заехалі, прыпаркаваліся. Нас павялі паесці гарачага ў кампус, потым змясцілі ў пакоі ... Знайшлі радыё «Спадарожнік». І як раз там была дыскусія наконт ці ёсць ваенныя тут на Украіне. І ўсе госці такія: «Не-не-не». Мы ротай ляжым такія: ну да. Ну а ў адкрытую хто скажа? Наш урад усё роўна разумее, што трэба дапамагаць, а калі афіцыйны ўвод войскаў зробяць, гэта ўжо Еўропа залупнецца, НАТА. Хаця вы ж разумееце, што НАТА таксама ў гэтым удзельнічае, вядома, зброю пастаўляе ім.» Цікава, а як бы яму спадабалася Прага, Кёльн, Рым, Парыж, Лондан? У гэтым адказе яскрава адчуваецца нейкая падсвядомая, ці напаўсвядомая згода з той акупацыйнай палітыкай, якую праводзіць сённяшняе кіраўніцтва Крамля, і якую праводзіла Расія пачынаючы ад заснавання Маскоўскага княства, панмангалізм у сваім практычным увасабленні. Гэтыя простыя хлопцы з расійскай глыбінкі гатовыя ехаць ваяваць за тысячы кіламетраў, забіваць і назіраць за хараством гарадоў, якія будаваліся стагоддзямі і тысячагоддзямі да іх, не імі і не іх продкамі. Дзе тут не ўспомніць Блока: «Виновны ль мы, коль хрустнет ваш скелет в тяжелых, нежных наших лапах?»

*№11, верасень 2015 ISSN 2291-4757*

Але гэта чалавек вайсковы. Што тычацца тых расійскіх грамадзян, хто сапраўды едзе ваяваць добраахвотна, за грошы ці за ідэю, то гэта тыя яшчэ пасіянарыі. Відавочна, што касмічная энергія, якая пасіянарна штурхнула іх на братазабойчую вайну спачатку акумулявалася ў расійскіх сродках масавай інфармацыі, увабрала ў сябе ўсю хлусню, а ўжо потым ударыла па галовах, выклікаючы неардынарныя паводзіны. Расійскія добраахвотнікі гэта ў асноўным людзі, якія не знайшлі сябе ў жыцці, таму вайна для іх шлях да самарэалізацыі. Паназірайце за тым як і каго адпраўляюць, прымаюць у якасці дабравольцаў, у сеціве дастаткова такіх відэа. Існуе думка, што адправіцца ваяваць надзвычай цяжка, бо патрабуе вялікіх здольнасцей і геройства. Гэта лухта. Калі чалавек на радзіме, у сябе дома нічым не быў заняты, быў бяльмом на вачах сваіх родных, то пайсці ваяваць зусім не цяжка. Насамрэч цяжка сумленна вучыцца, атрымоўваць вышэйшую адукацыю, потым пайсці ў аспірантуру, цяжка весці сваю справу і з году ў год клапаціцца аб рэпутацыі, цяжка выхоўваць і падымаць дзяцей на ногі.

У аднаго такога добраахвотніка журналістка расійскага тэлеканала «Дождж» Марыя Эйсмонт узяла інтэрв'ю. Прозвішча гэтага чалавека Грабцоў, ён лічыць, што Украіна гэта кусок Расіі, знаходзячыся на Данбасе ён здзейсніў подзвіг, падбіў украінскі танк і крыху памарадзёрнічаў, ён з задавальненнем паказваў журналістам забраныя з танку малюнкі дзяцей, якія пісалі ўкраінскі ваенным просячы абароны. На пытанне ці ўпэўнены ён, што забіваў фашыстаў ён адказаў наступнае: «Строга кажучы, не. Але наогул – так. Рускія ўвесь час ваююць з фашыстамі. Нашы продкі, нашы дзяды ваявалі з фашыстамі, і пакаленне рускіх людзей чакалі, калі нарэшце будзе нейкі такі ж дрэнны вораг. Калі з'яўляўся, мы назвалі іх фашыстамі. Пляваць, што яны думаюць аб сабе. Нам падабаецца называць іх фашыстамі». Дарэчы гэты чалавек у сябе дома, у сваім горадзе працуе журналістам, не цяжка ўявіць, што напіша чалавек з такімі поглядамі і якім чынам паўплываюць яго словы на чытачоў.

У гэтым прызнанні палягае ўся квінтэсэнцыя цяперашняй інфармацыйнай расійскай прапаганды. У сучасным расійскім грамадстве, прынамсі ў большасці, існуе негалосная ўстаноўка на хлусню. Гэта тычацца і расійскай эліты, і насельніцтва гэтай краіны. Расійскія сродкі масавай інфармацыіператварыліся ў фабрыкі хлусні, у розных месцах Расіі існуюць канторы троляў, якія за грошы штампуюць хлусню, знявагу, нянавісць да ўкраінцаў, да Захаду. Усе згодны з тым, што ім хлусіць можна. Цікава будзе звярнуцца ў гэтым пытанні да аналізу расійскага грамадства сацыёлага «Левадацэнтра» Льва Гудкова, вось што ён кажа: «Нашы даследаванні паказваюць не столькі маральную тупасць большай часткі насельніцтва, колькі выцясненне гэтых пытанняў. Няздольнасць да вынясення маральнага меркавання выяўляецца ў любым аспекце грамадскіх адносін, будзь-то стаўленне да ўлады, да карупцыі, да дзяцей або да мінулага, да сталінскіх рэпрэсій. Напрыклад, на пытанне «Ці можна

лічыць сталінскія рэпрэсіі злачынствам?» Большасць адказваюць, што сталінскія рэпрэсіі былі накіраваны супраць нявінных людзей, захоплівалі ўсе слаі грамадства. Але калі спытаць, ці можна гэта лічыць дзяржаўным злачынствам, і калі так, то хто ў гэтым вінаваты, надыходзіць стан прастрацыі. Людзі кажуць: «Мы не ў стане разабрацца ў гэтым. А таму давайце лепш гэта забудзем». Іншымі словамі, з-за немагчымасці назваць дзеянні ўлады злачыннымі (усё роўна – савецкай, сталінскай або цяперашняй улады, напрыклад, дзеянні федэральных уладаў у Чачні, а трэба сказаць, што ад 65 да 70% рэспандэнтаў лічаць абедзве гэтыя чачэнскія вайны несправядлівымі) адбываецца сістэматычнае выцясненне, дэрэалізацыя непрыемнага мінулага. Ніякай спагады загінуўшым, мірнаму насельніцтву (а ў гэтых войнах загінулі дзясяткі тысяч грамадзянскага насельніцтва), суперажывання пацярпеламу боку. Ёсць некаторая «бабіна жаль» да салдат тэрміновай службы, якія вымушаныя ваяваць. Свайго роду ідэнтыфікацыя з паднявольнымі, якіх гоняць і прымушаюць забіваць іншых. Але да тых, каго яны забівалі, - не.

.... Салідарнасць са сваімі або адказнасць толькі за сваіх можа разглядацца як сімптом адсутнасці механізмаў маральнай свядомасці. Такі тып адказнасці называюць племянной этыкай, а не мараллю.» ( З атрыкула «Моральных скреп не обнаружено...»)

І вось у гэтай племянной этыцы сучасных расіян і існуе негалосная ўстаноўка на хлусню, калі яны лічаць, што ім можна хлусіць. Сам прэзідэнт Расіі Пуцін паказвае яскравы прыклад такой устаноўкі. У лістападзе мінулага году Пуцін сустракаўся з маладымі расійскімі гісторыкамі, на сустрэчы ён правёў майстар-клас на тэму патрыятызму ў гістарыяграфіі: “Гісторыкі павінны адстойваць расійскія пазіцыі ў інфармацыйнай прасторы… Абарона сваіх поглядаў і інтарэсаў павінна быць грунтоўнай, пісьменнай, таленавіта выкананай… Змест павінен быць добрым, і абгортка павінна быць яркай, якая аказвае ўражанне на розумы ... Перыяд грамадзянскай вайны – гэта найцяжэйшае выпрабаванне для нашага народа. Добра гэта ці дрэнна, але бальшавіцкія лозунгі і плакаты выглядалі ярчэй, больш лаканічна і дзейнічалі напэўна больш эфектыўна. Акрамя ўсяго іншага гэта было модна, таму што працягу вайны ніхто не хацеў, бальшавікі выступалі за спыненне вайны. Праўда, яны ашукалі грамадства ... Так што ашуканства поўнае, стопрацэнтнае. Ашукалі прыгожа, але ва ўсякім выпадку зрабілі гэта вытанчана, і гэта таксама напэўна адыграла ў іх карысць. Таму абарона сваіх уласных інтарэсаў павінна быць таленавіта выкананай.” Пуцін таксама адзначыў, што зараз існуе тэндэцыя да перакадавання грамадства шмат у якіх краінах. Відавочна, што яго трывога накіравана на забеспячэнне сумленнага асвятлення гістарычных падзей, што ён і прадэманстраваў у прыведзеным урыўку з яго прамовы.

Дз. Кісялёў, рупар крамлёўскай прапаганды, вядучы праграмы «Вести недели», каментуючы гэтую сустрэчу, зноў абвінавацiў Захад: "Зразумела, пра што казаў прэзідэнт. Перакадаваць - значыць, змяніць культурны код, змяніць у людзей сістэму ўяўленняў пра дабро і зло, пра прыгожае і пачварнае, аб належным і забароненым, аб высакароднай і нізкім, пра подзвіг і здраду… Перакадаванне грамадскіх каштоўнасцяў - гэта загрузка новай праграмы, якая дазволіць людзьмі, краінамі і светам кіраваць. Ўручную. У сваіх інтарэсах. З фільмаў жахаў? Антыўтопія? Не! Працэс ужо ідзе. Ці сустракае ён супраціў? Так. Сустракае. З боку Расіі? Дакладна.

…Ды і што можна пабудаваць на нянавісці? Ўкраіну? Вось зараз спрабуюць. Бачым, што атрымліваецца. Нянавісць да Расіі як аснова нацыянальнага духу –прыклад паспяховага перакадавання. З Бандерай у сэрцы."

У цэлым пасыл зразумелы: падступны Захад імкнецца перакадаваць свядомасць расіян і прадстаўнікоў «рускага свету», і ў выніку атрымоўваем што? Правільна - Украіну. Гэта ўсё тая ж старая песня, што, маўляў, Украіна квазідзяржава, толькі гэта заход з іншага боку. Можна не сумнявацца, што гэткае ж стаўленне будзе і да незалежнасці Беларусі.

Вось тут варта прыгадаць адзін з асноўных слупоў еўразійства - ідэакратыя, як падмурак дзяржавы і грамадства (стыль кіравання краінай шляхам ідэалагічнага інструктавання мас). Вышэй прыведзены выдатны прыклад увасаблення гэтага прынцыпу на практыцы. Дарэчы апошнім часам у Расіі любяць перарабляць падручнікі гісторыі падпарадкоўваючы іх змест пад бягучыя патрэбы сучаснага кіраўніцтва. І вось адным з апошніх новаўвядзенняў стала адмова ад тэрміну «мангола-татарскае іга» і заменай яго на «складаная сістэма ўзаемазалежнасцяў».

Такім чынам, у расійскім грамадстве існуе попыт на апраўданне захопніцкай палітыкі. У адказ на гэты попыт развіваліся і рэалізуюцца розныя грамадзянска-палітычныя тэорыі, якія ставілі мэту навукова апраўдаць правамернасць і неабходнасць існавання Расіі як імперыі. Але паколькі зрабіць гэтага ніякім навуковым чынам немагчыма прыходзіцца прыбягаць да шалёнай прапаганды і хлусні. Жыццяздольнасці гэтай хлусні ў расійскім грамадстве спрыяюць комплексы, якія Л. Гудкоў назваў племянной этыкай. Але ж відавочна, што такая ўстаноўка на хлусню ўрэшце адаб'ецца і на саміх расійскіх грамадзянах, яна ўжо адбіваецца, напрыклад, у выглядзе санкцый, у поўным бяспраўі простых грамадзян перад прадстаўнікамі ўлады, у беспрэцэдэнтным абкраданні ўладай расійскага народа. Але яны пакуль яшчэ гэтага не разумеюць, бо знаходзяцца пад уздзеяннем той прапаганды, на якую ў большасці сваёй пагадзіліся.

**Alexander Kasho: PANMANGALIZM – IDEOLOGICAL INTENTION OF COUNTRY THAT LIES**

*(Abstract, magazine "CULTURE, NATION", September 2015, issue 11, pp. 4-13)*

It is discussed some issues of the existence of the Russian ethnos based on different theories of the last century, Panmangalism (Salauyou), Eurasism (Trubyatski, Gumilyou), in respect of promoting the idea of the "Russian world" today. The analysis of work of the Russian mass media aimed at justifying the restoration of the Russian empire is highlighted through the prism of a hybrid war of Russia against Ukraine. It has been suggested that in Russian society there is a demand to justify the aggressive policy. In response to this demand a variety of civil and political theories are developed, which have a scientific purpose to justify the legitimacy and necessity of the existence of Russia as an empire. Russian media have become a factory of lies, there are trolling offices in different parts of Russia those for money stamp lies, humiliation, and hatred of Ukrainians.

*№11, верасень 2015 ISSN 2291-4757*

**Пётра Мурзёнак: ВЫБАР МІРУ**

Беларусы сёньня ў асноўнай масе яшчэ не гатовы ні да асэнсаваных выбараў сярод магчымых альтэрнатыў, ні да актыўных дзеяньняў, скіраваных на зьмены ў бок дэмакратыі ці нават на ўзброеную абарону дзяржавы. Гаворка йдзе не пра беларускую эліту, якая заўжды існавала на працягу апошняга стагоддзя і змагалася за свободу, незалежнасьць і дэмакратыю, а аб гатоўнасьці ўсяго беларускага грамадства, якое не мае гістарычнай памяці, традыцый і досьведу ў гэтых пытаньнях.

Беларусы ў сваёй большасьці ніколі ў поўнай меры не змагаліся за свабоду, калі мець на ўвазе рамкі нацыянальна-вызвольнага руху. Тыя ўсплескі узброенай барацьбы, якія часам лакальна ўзьнікалі (Слуцкі збройны чын, групавы ці адзіночны супраціў пасьля 2-й сусьветнай вайны) не пакінулі значнага сьледу ў гістарычнай памяці беларусаў. Беларусь на працягу сучаснай гісторыі атрымоўвала незалежнасьць амаль задарма і гэта было абумоўлена ў асноўным зьбегам абставін і воляй больш магутных дзяржаў. Хаця трэба адзначыць, што ў гэтым сэнсе Беларусь не з’яўляецца выключэньнем, бо нараджэньне, жыцьцё і развіцьцё многіх малых краін і народаў у Еўропе амаль заўсёды працякалі па падобнаму сцэнару.

100 гадоў таму назад беларусы жылі ў Расійскай імперыі, якая была ў стане вайны з Германіяй. Падзел Еўропы пасьля 1-й сусьветнай вайны праходзіў пад дыктоўку вялікай чацьвёркі: ЗША, Брытаніі, Францыі і Італіі (Парыжская канферэнцыя, пачалася 18 студзеня 1919 года; Версальскі дагавор, 28 чэрвеня 1919 года). Рашэньні гэтых краін зафіксавалі распад імперый (Расійскай, Германскай, Аўстра-Венгерскай, Атаманскай) і ўтварэньне шэрагу новых краін: Чэхаславакіі, Польшчы (аднаўленьне), балтыйскіх краін, Сербіі і іншых. На жаль, вялікія краіны не пачулі голас урада Беларускай Народнай Рэспублікі, які з 1919 года дзейнічаў на выгнаньні і які патрабаваў прызнаньня Беларусі як дзяржавы, незалежнасьць якой была абвешчана 25 сакавіка 1918 года Радай БНР. Наступныя падзеі (рашэньні Лігі нацый, Рыжскі дагавор) паказалі, што інтарэсы беларускага народа ніяк не былі прыняты да ўвагі.

Тым не менш, нацыянальны рух беларускага і іншых народаў на тэрыторыі былой Расійскай імперыі і абяцаньні бальшавікоў на права нацый на самавызначэньне адыгралі галоўную ролю ў стварэньні БССР (1 студзеня 1919 года). Аднак, трэба падкрэсьліць, што рашэньне аб гэтым было прынята не ў Мінску, Полацку, альбо ў

Гародні, а ў Маскве Пленумам ЦК Расійскай камуністычнай партыі (бальшавікоў) і ў канчатковым выглядзе на канферэнцыі Паўночна-заходняй вобласьці РКП(б) у Смаленску (канферэнцыя была пераіменавана ў Першы з'езд Камуністычнай партыі Беларусі). У канферэнцыі удзельнічаў 181 дэлегат – усе яны прадстаўлялі толькі камуністычныя арганізацыі, большасьць з якіх дзейнічалі па-за беларускай тэрыторыяй; выбарных дэлегатаў ад беларускага народа там не было. Тым не менш, утварэньне БССР, няхай спачатку і не на значнай тэрыторыі, гэта бадай найважнейшая падзея ў гісторыі сучаснай Беларусі. Гэта быў як падарунак лёсу. Перыяд беларусізацыі 30-х гадоў мінулага стагоддзя ёсьць таму сьведчаньнем.

Такі жа падарунак Беларусь атрымала на пачатку 2-й сусьветнай вайны, калі яна значна прырасла і тэрыторыяй, і насельніцтвам, за кошт далучэньня Заходняй Беларусі. Зноў жа, гэта сталася вынікам дзеяньня зьнешніх сіл і абставін, а не ў выніку кансалідацыі нацыянальных, унутраных сіл, якая, калі і была, то толькі не вырашальная.

Аб’яднаньне дзьвюх частак Беларусі здарылася амаль праз 20 год пасьля 1-й сусьветнай вайны (1914-1918). Гэты 20-гадовы перыяд характарызаваўся адносна спакойным жыцьцём у Еўропе. Аднак, аншлюс Аўстрыі (сакавік 1938 года) і захоп Судэтаў нацысцкай Германіяй (1-10 кастрычніка 1938 года), зноў паказалі, што моцныя дзяржавы лёгка дамаўляюцца між сабой. Сведчаньнем таму ёсьць Мюнхенскі дагавор, паводле якога ЗША, Францыя і Брытанія пагадзіліся аддаць Германіі Судэты ў абмен на часовы спакой. Падаецца, што характар пакта Молатава-Рыбентропа аб ненападзе, заключаны 23 жніўня 1939 года паміж Германіяй і СССР, меў зусім іншы характар. Бо праз тыдзень пасьля яго заключэньня, 1 верасьня Германія пачала вайну з Польшчай, а 17 верасьня да Германіі ў вайну супраць Польшчы далучыўся Савецкі Саюз. Паводле таемнай дамовы пад непасрэднай пагрозай апынуліся народы некалькі краін Усходняй Еўропы: Фінляндыя, Эстонія, Латвія, Літва, Малдовіі, і Польшчы, якая валодала ў той час тэрыторыямі Заходняй Украіны і Заходняй Беларусі. На абарону Польшчы паўсталі Францыя, Вялікабрытанія – пачалася 2-я сусьветная вайна.

І надалей беларусаў ніхто не пытаўся пра рэалізацыю важных пытаньняў жыцьця краіны: Масква вольна ставіла межы паміж Польшчай, Літвой і Беларусьсю, у выніку чаго былі страчаны тэрыторыі, дзе пражывалі этнічныя беларусы (Беласточчына, Вілейшчына); палітычным было і рашэньне аб прыёме БССР у якасьці сябра ААН (чым да 90-х гадоў Беларусь ганарылася). Ніхто не праводзіў па гэтых пытаньнях плебісцытаў, рэферэндумаў, а каб і праводзіліся, то вынік быў бы вядомы. Сістэма савецкіх выбараў, калі кандыдатамі ў саветы усіх узроўняў былі прадстаўнікі блока камуністаў і беспартыйных, давала заўжды амаль 100-адсоткавы

*№11, верасень 2015 ISSN 2291-4757*

вынік “за”, бо альтэрнатывы не было. Адной альтэрнатывай было выжываньне – з-за пагрозаў страху і голаду. Існуюць розныя ацэнкі наступстваў пакта для Беларусі: адны аўтары ставяцца станоўча, ківаючы на значны прырост насельніцтва і тэрыторыі Беларусі, што знаходзіліся ў міжваенны час пад Польшчай, другія, адмоўна, бо беларускае насельніцтва вызваленых раёнаў патрапіла пад сталінскія рэпрэсіі, а пасьля яшчэ і зьведала 3-гадовую нямецкую акупацыю. Бо з пакта Молатава-Рыбентропа і пачалася 2-я сусьветная вайна (беларускі супраціў падчас акупацыі не падлягае ў поўнай меры пад катэгорыю нацыянальна-вызвольнага і не абмяркоўваецца ў артыкуле).

Жыцьцё без асэнсаванага выбару доўжылася на працягу халоднай вайны, калі ў беларусаў асабліва ніхто не пытаўся іх думкі і меркаваньняў. Усё як заўжды вырашалі моцныя дзяржавы. Амерыканскія і савецкія штабныя афіцэры парэзалі на карце Карэю на дзьве часткі па 38-й паралелі. Да гэтага часу Паўночная і Паўднёвая Карэя знаходзяцца ў стане вайны (перамір’е заключана ў 1953 годзе) і паміж імі існуе дэмілітарызаваная зона шырынёй 4 км і даўжынёй 241 км. Такім жа чынам, берлінская сьцяна падзяляла сьвет на два варожыя лагеры і хаця пагроза непасрэднай вайны зьнікла (дамовы аб абмежаваньні ядзернай зброі паміж СССР і ЗША, Хельсінскі Акт), але Беларусь жыла пад савецкім ядзерным парасонам, за жалезнай сьцяной, па-за якой жылі ворагі. Альтэрнатывы не было.

Жыцьцё якое станавілася пакрысе лепшым раптам абрынулася пасьля афганскай аванцюры, развалу КПСС, і затым СССР. Лёс падарыў у 1990 годзе Беларусі яшчэ адзін шанс – сёньня Беларусь спрабуе адбудаваць незалежную, самастойную і суверэнную краіну. Фармальна так выглядае. Аднак, па сутнасьці, як і ўсе малыя краіны, Беларусь знаходзіцца пад прэсам – зараз, як і ў часы СССР, яна ўваходзіць у сферу надзвычайна блізкіх геапалітычных інтарэсаў Расіі. Падаецца што курс, узяты Лукашэнкам на самым пачатку яго кіраваньня на яднаньне з Расіяй, абцяжарвае развіцьцё краіны. І не толькі таму, што Беларусь прывязана да расійскіх прыродных рэсурсаў і яе эканомікі – многія краіны знаходзяцца ў падобным узаемазалежным стане, напрыклад, Канада і ЗША. Але непрыймальным з’яўляецца стан грамадскай супольнасьці, якая, дарэчы, пачала прыціскацца спачатку ў Беларусі. Сітуацыя ў Расіі зараз па многіх асьпектах нагадвае Беларусь – прыцясненьні прэсы, палітычных рухаў, незалежных грамадскіх арганізацый, з’яўленьне палітзняволеных (у часы Ельцына гэта не было так выразна бачна). Лукашэнка, забаўляючы вярхушку Расіі, выціснуў з краіны амаль усе сьвядомыя беларускія сілы, па крайней меры, задавіў актыўнасьць беларускай эліты, якая яшчэ спрабуе штосьці здзейсьніць. З другога боку, напладзіліся шматлікія пра-расійскія арганізацыі (больш за сотню), якія змогуць адыграць пры неабходнасьці роль 5-й калоны. Казакі, якімі ніколі на беларускай тэрыторыі не пахла (хіба залётнымі), ужо пайшлі ў прэзідэнты.

З другога боку, кіраўніцтва Расіі працягвае гнуць сваю лінію. Пагрозы для незалежнасьці Беларусі ідуць як эканамічныя, так і ваенныя. З самых апошніх навін: у канцы жніўня Пуцін прапанаваў увесьці рубль як плацёжны сродак у краінах СНГ; 2 верасьня Мядзьведзеў на паседжаньні ўрада Расіі абмяркоўваў прапанову падпісаць Пагадненне паміж Расіяй і Беларуссю аб расійскай авіяцыйнай базе на беларускай тэрыторыі. Пра гэта паведамляе РІАН са спасылкай на прэс-службу Кабміна Расіі: “Падпісанне пагаднення будзе садзейнічаць арганізацыі сумеснай аховы знешняй мяжы саюзнай дзяржавы ў паветранай прасторы і стварэнні Адзінай рэгіянальнай сістэмы супрацьпаветранай абароны Расійскай Федэрацыі і Рэспублікі Беларусь і доўгатэрмінова замацуе расійскую вайсковую прысутнасць у рэгіёне».

Гэта непасрэдная ваенная пагроза нашай краіне. Абвастрэньне халоднай вайны і сбліжэньне да вайны гарачай адбываецца паміж Расіяй і ЗША, Расіяй і НАТА, а Беларусь знаходзіцца на гэтай мяжы.

Як выстаяць у гэтым сьвеце, ды яшчэ зьберагчы і адбудаваць нацыянальную краіну? Прыклад Украіны сьведчыць, што для гэтага патрэбна мабілізацыя ўсіх унутраных сіл нацыі. Каб падпарадкаваць Украіну, краіну па маштабах не маленькую, Расія пачала ваенную агрэсію і анэксавала Крым (сакавік 2014) і працягвае правакацыйную гібрыдную вайну на у Данбасе. Расія, парушаючы шматлікія міжнародныя дамовы, ня здолеўшы пераадолець нечаканы і ярасны супраціў украінскага народа, зараз вядзе гандаль за геапалітычную украінскую прастору з ЗША і Еўрапейскім Саюзам, дзе галоўную ролю іграе Германія. Сёньня з-за пагрозы з боку Расіі хвалююцца тыя ж краіны Усходняй Еўропы, што былі ўключаны ў пакт Молатава-Рыбентропа ў 1939 годзе. Не выключэньне складае і Беларусь. Стан Беларусі дваякі – з аднаго боку па многіх асьпектах (палітычным, эканамічным, ваенным) яна часткова залежыць ад Расіі, але з другога боку як суб’ект міжнароднага права і незалежная краіна – яна мусіць весьці сябе адпаведна статусу.

У нядаўнім інтэрв’ю, які даў “Нашай Ніве” былы беларускі дысідэнд М. Кукабака, выказана думка што тое, што робіць Лукашэнка з’яўляецца найлепшым пакуль у Расіі кіруе Пуцін. Магчыма, што многія людзі падзяляюць яго думку і прызнаюць існаваньне “феномена Лукашэнкі”. Але беларускаму кіраўніцтву ў цяперашняй сітуацыі трэба быць больш рашучым. Спробы шукаць альтэрнатыўныя падыходы, да прыкладу, праз сумесныя праекты Украіны, Беларусі і Літвы, як абмяркоўвалася нядаўна міністрамі замежных спраў гэтых краін, выглядаюць не зусім пераканаўчымі. Відавочна, таксама, што вызваленьня палітвязьняў, якое адбылося 22 жніўня, будзе таксама недастаткова, каб пацепліць адносіны з Захадам. Моцным і правільным ходам было б правядзеньне рэферэндуму (нават разам з цяперашнімі

выбарамі) аб нейтральным стане Беларусі, што вырашыла б многія праблемы для краіны. Калі гэтага не будзе рабіць сучасны ўрад, то на гэта павінны быць скіраваны сілы нацыянальнай эліты.

Па якому шляху будзе развівацца далей Беларусь прагназаваць немагчыма. Можна толькі адзначыць, што найлепшым варыянтам, калі б такое было магчымым, было б дасягненьне стану нейтральнай дзяржавы, што дарэчы і прапісана ў Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь – "Рэспубліка Беларусь ставіць за мэту зрабіць сваю тэрыторыю без'ядзернай зонай, а дзяржаву — нейтральнай" (Артыкул 18). Аднак, для гэтага трэба пакінуць ОДКБ як мінімум і вывесьці чужыя войскі са сваёй тэрыторыі (расійскія базы ў Ганцавічах і Вілейцы).

Тэарэтычна, пры ваенным нападзе Расіі, бараніць краіну будзе некаму. Не таму, што такіх людзей не знойдзецца, а таму, што іх будзе недастаткова, як бы гэтага не хацелі некаторыя палітыкі, уключна з Лукашэнкам, і як бы да гэтага не заклікалі (назапашваць зброю, спадзявацца на беларусаў-удзельнікаў вайны на Украіне, і г.д.). Думаецца, што ў цэлым беларусы не гатовы бачыць на сваёй тэрыторыі вайсковыя дзеі, бо як і многія цывілізаваныя народы паважаюць мірнае суіснаваньне. Да таго ж у Беларусі адсутнічаюць сур'ёзныя палітычныя сілы, за выключэньнем дзейнай улады, якія б маглі паднімаць людзей на барацьбу. Сёлетняя выбарчая кампанія гэта яскрава паказала – нават так называемыя казакі нейкім чынам сабралі больш за сто тысяч галасоў у сваю падтрымку, аднак не апазіцыйныя партыі. Калі браць прыклад з заходніх дэмакратый, то для большасьці партыйных лідэраў прайграўшых партый, лепшым чэсным выйсьцем была б адстаўка. Чым можна тлумачыць такія вынікі – дыктатурай, стомленасьцю насельніцтва ад выбараў, страхам, недаверам да апазіцыі і яе слабасьцю, абыякавасьцю беларусаў да палітыкі ці падтрымкай курса ўрада? Ці ўсім разам?

Можна сколькі заўгодна заклікаць да байкоту, ці з-за мяжы, ці выйшаўшы на плошчу ў Мінску, аднак, не маючы сур'ёзных арганізацыйных структураў, гэта будзе не больш чым голас у пустыні. Заклікі без падтрымкі дзеямі гэта поўны абсурд. Калі нават дапусьціць, што здарыцца нейкі байкот ці няўдзел, то, відавочна, што ён будзе не дзеля прызываў і заклікаў прыхільнікаў такога падыходу, а проста ад прадвырашанасьці выбараў і абыякавасьці беларусаў. Але нават такі тып байкоту не зьменіць іх вынікаў.

Інтэнсіўныя спрэчкі, якія распачаліся вакол кандыдата ў прэзідэнты, Таццяны Караткевіч, сьведчаць, што ў стане беларускай эліты няма адзінства. Сказываецца старая хвароба – пошук ворагаў. З прыхільнікамі практычных дзеяў, як гэта іранічна

падае С. Карпаў (nn.by/?c=ar&i=155617), спрачаюцца людзі, якія прытрымліваюцца прынцыпіяльных пазіцый (В. Пракопчык, nn.by/?c=ar&i=155729). Калі дапусьціць, што Караткевіч не здымецца з выбараў і набярэ працэнтаў 15, то магчыма тон гэтых дыскусій зьменіцца. У той жа час, дыскусіі гэтыя маюць элітарны характар - яны мусяць быць, але як зразумела данесьці іх зьмест хаця бы да 25% выбарцаў? Як заявіў нядаўна былы палітвязень-анархіст, Ігар Аліневіч, менавіта народ, а не дзейнасьць адзінак будзе вырашаць лёс краіны.

З павагай ставячыся да лідэраў старой апазіцыі трэба канстатаваць, што нават іх аб'яднаньне цяпер не будзе вырашальным. Хаця б туды і падключыўся мужны чалавек і змагар, Мікалай Статкевіч. Голас яскравых прадстаўнікоў беларускай эліты вельмі важны, гэта іскра, якая калі-небудзь разгарыцца. Аднак, зноў жа, адных гэтых галасоў пакуль што недастаткова каб пабудаваць нейтральную, нацыянальную дзяржаву ў цэнтры Еўропы.

Можна пагадзіцца з тым, што выбары ўжо адбыліся. Бо рэальнай альтэрнатывы Лукашэнку няма. Трэба чэсна прызнаць – і не было. Апазіцыя (старая) разгромлена, у чым яна ж, не ў меньшай ступені чым дзейнасьць рэпрэсіўнага апарата, і вінавата. За 20 гадоў апазіцыйныя партыі істотна не прырасьлі колькасна, г.зн. не здолелі прыцягнуць на свой бок людзей. Грамадскія недзяржаўныя арганізацыі не з'яднаныя. Думаецца, што пакуль няма агульнай сістэмнай працы з насельніцтвам, якое было б гатова ўспрымаць моцныя, цікавыя эканамічныя праграмы, ці палітычныя рашэньні, то краіна будзе праз 5 год напяпэдадні новых выбараў у такім жа стане, як гэта назіраецца зараз, і як гэта было ў мінулыя выбары (2001, 2006, 2010).

З аднаго боку, гэта будзе зноў абумоўлена традыцыямі савецкай выбарчай сістэмы, якая культывуецца Лукашэнкам, а з другога боку тым, што беларусы не адукаваныя ў палітычнай культуры. Мала хто з шараговых беларусаў адрозніць ідэалогію ліберальнай партыі ад ідэалогіі партыі сацыял-дэмакратычнага накірунку. Беларусы не гатовыя да альтэрнатыўнага выбара – ім, як бы, і так добра. Таму адукацыя і асьвета застаюцца амаль адзінымі сродкамі беларускай эліты, каб адкрыць беларусам вочы і праясьніць іх розум у дачыненьні да дэмакратычных падыходаў арганізацыі грамадства. Пакуль што ў Беларусі амаль адсутнічаюць грамадскія інстытуты і ініцыятывы, якія б у істотнай ступені кантралявалі дзейнасьць дзяржаўных установ і аўтарытарныя падыходы ў галіне правоў і свабод чалавека.

Нягледзячы на такі пессымістычны аналіз фінал артыкула мусіць быць пазітыўным і тут, ідэя яднаньня, хоць і зусім не новая, стаіць на першым плане. Няма будучыні ў дэмакратычным развіцьці Беларусі без яднаньня палітычных партый, недзяржаўных

грамадскіх арганізацый і актыўных беларускіх грамадзян, без утварэньня новага нацыянальна руху з адзінай платформай\стратэгіяй. Сябры партый маглі б уключыцца ў склад такога руху толькі на непартыйнай аснове. Такі рух можа быць створаны нават у віртуальнай прасторы, праз інтэрнэт, са свабодным выхадам і ўваходам (прыкладная схема прадстаўлена ў праекце "Разам", www.sakavik.net). Ключавой ідэяй яднаньня і новай стратэгіі можа быць будаўніцтва нейтральнай, нацыянальнай дзяржавы ў Еўропе.

**Piotra Murzionak: CHOICE OF PEACE**

*(Abstract, magazine "CULTURE, NATION", September 2015, issue 11, pp. 14-20)*

It is discussed that in its history Belarus was almost never really fighting for its independence as it might be defined as a national liberation movement. That it was while getting a statehood in 1919 or joining of two parts of the country, East and West, just before II World War. During the time indicated the great countries, countries of "four" and Russia determined the fate of Belarusians. It was also true that they were strongly influenced by political, ideological, and cultural policies of Russia and were protected by Russian umbrella from the West. Russian pressure for two centuries resulted in almost absence of the will in Belarusians to fight for freedom and in a very low level of political culture. Belarus now continues to be under Russian economical and military pressure (propositions by Russian leaders to have a rouble as main money in Commonwealth countries, to create military airbase on Belarusian territory). As optimal outcome in this situation, a conducting of referendum about neutral status of Belarus is discussed.

**Пётра Мурзёнак: ДЗЕНЬ ЧОРНАЙ СТУЖКІ Ў КАНАДЗЕ (дзень памяці наступстваў пакта Молатава-Рыбетропа)**

76 год таму назад быў заключаны таемны пакт Молатава-Рыбентропа. Відавочна, што ў краінах, дзе гэтыя дзеячы былі міністрамі замежных спраў, такая падзея ніяк не адзначаецца. У той жа час пра гэту дату не забываюцца грамадзяне тых краін, якія былі ахвярамі гэтага ганебнага дагавору і не толькі ў сваіх краінах, але і за іх межамі, дзе яны апынуліся ў выніку катастрафічнага падзелу Еўропы падчас 2-й сусьветнай вайны.

У Канадзе**,** Дзень чорнай стужкі, які з'яўляецца часткай Нацыянальнага дня памяці, адзначаецца як дзень сумна вядомага дагавора Молатава-Рыбентропа (1939) паміж Савецкім Саюзам і нацысцкай Германіяй, які непасрэдна прывёў да акупацыі большасьці краін Цэнтральнай і Усходняй Еўропы, Фінляндыі і Балтыі і забою і прыгнёту дзесяткаў мільёнаў людзей. Адзначэньне гэтага дня каардынуецца з 2009 году Саветам Канады па Цэнтральнай і Усходняй Еўропе ў супрацоўніцтве з нацыянальнымі суполкамі. У гэтым годзе адзначэньне Дня чорнай стужкі прайшло ў 8 гарадах Канады, уключаючы Аттаву, Таронта, Ванкувер, Вінніпег і іншыя гарады.




У Аттаве гэту падзею адзначалі ва Украінскай уніяцкай царкве ім. св. Яна, у дзень заключэньня Пакта, 23 жніўня 2015 года. Каб памянуць ахвяр камуністычнага рэжыма і нацыскай тыраніі тут сабраліся прадстаўнікі нацыянальных суполак Беларусі, Чэхіі, Эстоніі, Венгрыі, Латвіі, Літвы, Польшчы, Славакіі і Украіны, а таксама прадстаўнікі амбасад многіх з упамянутых вышэй краін. Вечар пачаўся з паніхіды, якую правялі сьвятары Ігар Охрымчук (Украінская праваслаўная царква) і Зянон Хентош (Украінская уніяцкая царква). Затым са зваротамі-малітвамі

выступілі прадстаўнікі суполак. Ад беларускай суполкі быў прачытаны верш Ларысы Геніюш “Малітва” ( у перакладзе на ангельскую Пятра Мурзёнка) і прадстаўлена інфармацыя пра складаны і ахвярны лёс для бацькаўшчыны паэта і чалавека.

Далей вечар праходзіў у грамадскай зале царквы. Са зваротам і віншаваньнем гасьцей выступіў Andris Ķesteris, старшыня Савета па Цэнтральнай і Ўсходняй Еўропе Канады (Central and Eastern European Council of Canada).



Andris Ķesteris

Rūta Auziņa, з латыскай суполкі, выканала разам з прысутнымі канадыйскі гімн.

Слова было дадзена запрошнаму госьцю, Ганароваму сп. Роялу Галіпо (Royal Galipeau), сябру парламента Канады ад кіруючай, кансерватыўнай партыі (акруга Ottawa-Orléans). У сваім дакладзе ён адзначыў тыя наступствы, якія былі вынікам гэтага Пакта, успомніў халакост, галадамор, шматлікія ахвяры народаў паняволеных краін, і запэўніў, што кансерватыўны ўрад Канады і надалей будзе падтрымліваць імкненьне народаў да свабоды і дэмакратыі, і ў прыватнасьці, партрымліваць Украіну супраць расійскай агрэсіі. Таксама, ён выказаў упэўненасьць, што помнік ахвярам камунізму будзе устаноўлены ў Аттаве ў адпаведнасьці з тымі абяцаньнямі, якія даў урад Канады. Пазьней на гэту тэму выступіў і сп. Людвіг Клімковскі, адказны за рэалізацыю гэтага праекта (Ludwik Klimkowski, Chair of Tribute to Liberty - Memorial to the Victims of Communism).

Вечар скончыўся заключным словам сп. Andris Ķesteris, лёгкім пачастункам, кавай, і размовамі.




Арганізатары вечара, прадстаўнікі амбасадаў і суполак Аттавы

Падчас адзначэньня Дня чорнай стужкі сярод на паседжаньнях быў распаўсюджана заява прэм'ер-міністра Канады сп. Харпера (ангійскі варыянт зьмешчаны ў канцы артыкула). Ніжэй падаем беларускі пераклад заявы:

**Заява прэм'ер-міністра Стывена Харпера на Дзень Чорнай стужкі**
*23 жніўня 2015 года*

Прэм'ер-міністр Канады Стывен Харпер робіць гэтую заяву, каб адзначыць Дзень чорнай стужкі, Нацыянальны дзень памяці ахвяр камунізму і нацызму ў Еўропе. "У гэты дзень у 1939 годзе нацысцкая Германія і камуністычны Савецкі Саюз падпісаў праславуты дагавор Молатава-Рыбентропа аб ненападзе, які ў канчатковым выніку прывёў да Другой сусьветнай вайны. Гэтыя тыранічныя рэжымы занялі большую частку Цэнтральнай і Усходняй Еўропы, у выніку чаго адбыліся незлічоныя разбурэньні і бессэнсоўныя пакуты, і жорсткае забіцьцё мільёнаў нявінных мужчын, жанчын і дзяцей. Сёньня ўсе канадцы далучацца да мяне і

